Opłatę pocztową
uiszczono ryczałtem.

# СЯЛЯНСКАЯ ПРАЎДА

Выходзіць тры разы ў тыдзень.

Цана асобнага нумару 20 грош.

Адрэс рэдакцыі і адміністрацыі: **Вільня, Віленская вул. 12, п. 6.** (Wileńska 12, m. 6).

Рэдакцыя адчынена ад **12** да **2** г. штодня апрача сьвяточных дзён. Адміністрацыя ад **9** да **3** г.

Падпіска на **адзін месяц** з дастаўкай да хаты **2 зл.** Для заграніцы ўдвая даражэй. **Перамена адрэса 30 грошы.**

Няпрынятыя ў друк рукапісы назад не вяртаюцца. Аплата надрукованага залежыць ад Рэдакцыі.

Цана абвестак: перад тэкстам 25 грош., сярод тэксту 20 грош. і на 4 стр. 15 грош., за радок пэтыту ў 1 шп.

№ 24. Вільня, Нядзеля, 23-га лістапада 1924 г. Год I.

## Дарэмныя страхі.

Уваход да ўраду п. Грабскага былога лідэра „вызваленцаў“, п. Тугутта, ня выклікаў сярод беларускага грамадзянствая ніякіх надзеяў на паляпшэньне палажэньня беларускага насяленьня пад уладай Польшчы. Справа „языковых“ законаў лішне ярка выявіла істотныя імкненьні п. Тугутта ў справе разьвязаньня пытаньня аб „меншасьцях“ Польшчы. I цешыцца з таго, што мо‘ будуць *напісаны* на паперы нейкія новыя законы аб нашых правох, якім ня суджана зьдзейсьніцца на дзеле,—запраўды-ж няма чаго....

Затое новым назначэньнем п. Тугутта вельмі перапалоханы нашы „крэсавыя“ абшарнікі: яны баяцца радыкалізму віцэ-прэм‘ера! Ня веручы, як і мы, у магчымасьць паразуменьня паміж беларусамі і п. Тугуттам, орган „нашых“ абшарнікаў, „Słowo“, на ўсякі прыпадак заклікае віцэ-прэм‘ера, каб пашукаў лепш спосабу дайсьці ўгоды з жыдоўскай і нямецкай буржазіяй, якія *баяцца бальшавізму*, ды не даваў ніякіх уступак беларусам, якім бальшавікі ня толькі ня страшныя, а, наадварот, даюць у Радавай Беларусі „шырокае раўнапраўе языка“. Таго, што беларусы маюць у БСРР, паводле думкі „Słowo“, п. Тугутт усё роўна ня можа даць беларусам пад Польшчай, дык няма на што і пачынаць гэту справу...

„Польская нацыянальная палітыка—піша „Słowo“ ў № 265—павінна ўвайсьці ў саюз з праваслаўнай царквой, павінна,ўрэшце, знайсьці, вышукаць, наканец *стварыць* (!) на Украіне і на Беларусі элемэнты, якія *запраўды баяліся-бы бальшавікоў*“.

Мы падчыркнулі апошнія словы, бо яны якраз і даюць ключ да разьвязкі сучаснага палажэньня—прынамся тэарэтычна. Запраўды, трудна гаварыць аб прымірэньні паміж прадстаўнікамі *польскае буржуазіі*, якія, фактычна, кіруюць усім дзяржаўным жыцьцём Польшчы, і *беларускімі пралетарскімі ці поў-пралетарскімі сялянскімі масамі*, якіх дзеліць ад польскае буржуазіі ня толькі нацыянальнасьць, але дзеляць і сацыяльныя інтарэсы. I затым-то, як слушна кажа „Słowa“, каб „ажаніць“ польскую буржуазію з беларусамі, трэба знайсьці ці стварыць сярод апошніх адпаведную клясу, якая „баялася-бы бальшавікоў“: інакш кажучы, трэба стварыць *беларускую буржуазію.*

Такой буржуазіі мы ня бачым. Ня бачыць і польская ўлада, якая дагэтуль вынаходзіла для сябе контар-агентаў сярод беларусаў, апіраючыся не на еднасьці з польскай буржуазіяй іх *клясавых* інтарэсаў, а... выключка, *асабістых*, кішанёвых. Улада зносілася і зносіцца, выключна, з такімі *адзінкамі* (да таго байкатаванымі беларускімі масамі!), і зусім натуральна, што такой дарогай не магла і ня можа дайсьці да паразуменьня з беларускім народам, *клясавыя* інтарэсы якога рэзка разыходзяцца з інтарэсамі польскае буржуазіі.

Вось у гэтым, як кажуць немцы, і „зарыта сабака“. Каб гаварыць з беларускімі масамі зразумелым для іх языком, трэба, каб гаварылі ня тыя, хто яўна ці адкрыта стаіць на варце інтарэсаў варожае гэтым масам клясы. I мы можам толькі цешыцца, што „нашы“ абшарнікі гэтак ясна і шчыра паставілі кропку над *і* ў польска-беларускіх адносінах.

Абшарнікі баяцца, каб іменна п. Тугутт не загаварыў іменна такім зразумелым для нашага селяніна языком. Відаць, яны йшчэ не ачунялі ад страху перад пагрозай п. Грабскага, які з соймавае трыбуны казаў, што высокімі падаткамі прымусіць буйных зямляўласьнікаў хутчэй прадаваць свае землі сялянам (—на жаль, тыя ня маюць за што купляць!).

Але гэта—дарэмныя страхі. Мы ні адну мінуту не сумляваемся, што ні п. Грабскі, ні п. Тугутт *ніколі ня стануць на клясавае становішча працоўных.* Сучасны ўрад ня зыйдзе з тэй лініі ў сацыяльнай палітыцы, па якой у працягу пяцёх гадоў ішлі ўсе яго папярэднікі.

Дык і супольнага з беларускімі масамі языка мы ад п. Тугутта не спадзяемся. Страхі „нашых“ абшарнікаў—дарэмныя: іх уладзе на нашай зямлі ўрад пагражаць ня зьбіраецца!

Не дарма-ж у соймавых кулюарах ходзіць чутка, быццам п. Тугутт згадзіўся на ўвядзеньне ў чатырох усходніх ваяводзтвах „выняткоўага стану“....

## Хто такія „вагабіты“?

(*Да выпадкаў у Арабіі*).

Нашы чытачы ведаюць, што нейкія вагабіты ў Арабіі пайшлі вайною на пасаджанага Англіяй за караля ў Мэццы эміра Гусэйна, выгналі яго з сьвятога для ўсіх магамэтан места і захапілі ўладу амаль ня над усей Арабіяй. Хто-ж гэтыя вагабіты, адкуль яны ўзяліся? Выясьніць гэтыя пытаньні вельмі важна—дзеля таго, каб зразумець, якую ролю могуць адыграць вагабіты ў сучасны мамэнт у вялізарным руху да адраджэньня сярод паняволеных Захадам народаў Усходу.

Сусьветная вайна і пачаўшыся пасьля яе нацыянальны адраджэнскі рух паставілі перад **магамэтанскім сьветам** цэлы рад важных заданьняў, якія можна наагул зьвясьці да двух галоўных.

Першая задача — тое, каб выпрацаваць новыя формы грамадзкага быту—у сувязі з **новым духам часу і новымі сацыяльнымі слаямі**, якія выйшлі на паверхню жыцьця і пачалі тварыць гісторыю.

Другая, ня менш важная для веруючых мусульман задача была ў тым, як **духоўна** зьвязаць палітычна і нацыянальна разьдзеленыя адзінкі мусульманскага сьвету—навакол адзінага рэлігійнага цэнтру халіфату (халіф—нешта ў родзе магамэтанскага Папы, „намесьнік прарока Магамэта“).

На вырашэньне першай задачы магутны ўплыў мелі чатыры галоўныя цэнтры мусульманскага сьвету: Каір Канстантынопаль, Казань і Калькутта,—першы ў Ягіпце, другі—у Турцыі, трэці—у ССРР, чацьвёрты—у Індыі. Ува ўсіх галоўным зьместам грамадзкай рэфармацыі было **вызваленьне кабеты, якая цяпер увайшла ў грамадзянства** на роўных правах з мужчынай, — і наагул гэтак званая „эўрапэізацыя“ — у галіне навукі і тэхнікі.

Але, зразумела, усе гэтыя цэнтры выявілі вялікія розьніцы пры вырашэньні гэтых культурна-грамадзкіх задачаў.

Арабска-ягіпецкі цэнтр хацеў будаваць рэфармацыйна-адраджэнскую працу на **арабскім нацыяналізьме;**

## Цэнтральная Беларус. Школьная Рада

гэтым заклікае ўсіх сяброў Т-ва Беларускай Школы ў Вільні на агульны сход 30-га гэтага лістапада а 2-ой гадзіне вечара ў памешканьні Ц.Б.Ш. Рады (Вільня, Віленская 12, пам. 6). Калі на азначаны час ня прыбудзе ўстаноўленага ліку сяброў, агульны сход адбудзецца 14-га сьнежня гэтага-ж году а тэй самай гадз. ў памешканьні Школьнай Рады, бяз увагі на лік прыбыўшых сяброў. Парадак спраў: 1) Справаздача за мінуўшы год, 2) Давыбары сяброў Школьнай Рады і 3) Бягучыя справы.

*Цэнтр. Беларуская Школьная Рада.*

наадварот—турэцкі цэнтр, меўшы да вайны фактычную сілу рэлігійнага і палітычнага цэнтру ўсяго сусьветнага магамэтанства, якраз **выключаў нацыянальна-палітычныя розьніцы.** Казань цягнула ў бок адраджэньня **тэоркскай нацыянальнай культуры**. Калькутта высоўвала перад усім **рэлігію.**

Уплывы „эўрапэізацыі“ ішлі ў гэтыя цэнтры праз розныя дзяржавы, з якімі кожын з іх быў зьвязаны найбліжэй.

У Турцыі вонкава-культурны ўплыў мела заўсёды Францыя; пасьля—перад вайной і ў часе вайны—Нямеччына, а цяпер—ізноў Францыя. У Індыі на выпрацаваньне новых грамадзкіх формаў, зразумела, мела заўсёды магутны ўплыў Англія. У Арабіі — на моцы „мандатаў“ Англіі і Францыі—уплывы падзяліліся на палову. Казань выразна дзяржала курс на Маскву. Індыя, падобна Японіі, пераймае ад Эўропы толькі навуку і тэхніку і якраз толькі тое, што з эўрапэйскай культуры для яе канешна патрэбна.

Казань лягчэй за ўсіх адраклася ад сваіх старых форм і ідэалаў і прышчапіла сабе расейскі радыкалізм. Туркі пад заражаючым францускім уплывам больш за ўсіх пачалі зьмяняць сваю нацыянальную культуру, прысваіваючы сабе ня толькі моды і музыку, але і мову французаў.

Проці ўсяго гэтага, проці лішне падагнанай у тэмпе эўрапэізацыі пачалася ў нетрах мусульманскага рэлігійнага сьвету магутная **рэакцыя** (процідзейнасьці). А калі дадаць да таго, што—пад вопраткай „культурных уплываў“—праз усе гэтыя цэнтры мусульманскага жыцьця і мусульманскае мысьлі цягнулася сьціснутая ў „зялезны кулак“ добра знаёмая народам Усходу **лапа Заходняга захватніцкага імпэрыялізму**, дык лёгка зразумець, што гэтая рэакцыя знаходзіла сабе вялікую падмогу ў жывым інстынкце самазахаваньня ўсіх тых розных нацыянальна сьветаў, якія рэлігійна калісь былі злучаны ў адзіны вялізарны рэлігійны — магамэтанскі сьвет—з насяленьнем у многа сот мільёнаў „верных“.

Калісь да вайны найвыдатнейшыя прадстаўнікі сусьветнай мусульманскай думкі згадзіліся, што цэнтрам гэтага мусульманскага сьвету — „мусульманскім Рымам“—павінен быць Канстынопаль, а „Папай“ — турэцкі султан, як наймагутнейшы манарх у сьвеце. I, запраўды, у працягу шмат гадоў **халіфат** быў злучаны з асобай турэцкага султана, нешта падобнае было і ў **імпэратарскай Расеі**, дзе цар быў адначасна і галавой праваслаўнай царквы.

Але вельмі лёгка зразумець, што гэтая **рэлігійная гэгемонія Турцыі** над іншымі мусульманскімі цэнтрамі рабіла многа клопату арабскім, індыйскім і іншым мусульманам і выклікала грознае нездаволеньне з боку тых магутных эўрапэйскіх дзяржаў, над **палітычным панаваньнем** ці ўплывам якіх яны знаходзіліся!.. Гэткая ўлада **Турэцкага манарха**, як рэлігійнага галавы мусульманства, над сумленьнем, напрыклад, **„расейскага“** татарына ці **„англійскага“** індуса стварала вялікія небясьпекі, напрыклад у часе вайны Расеі ці Англіі з Турцыяй. Турэцкі султан, як халіф, мог ня толькі забараніць—ад імя Магамэта!—верным магамэтанам—грамадзянам Англі ці Расеі — ваяваць проці Турцыі, але і загадаць рабіць на яе карысьць нешта большае.

I, запраўды, усе гэтыя небясьпекі ярка выявіліся ў часе вялікае вайны.

У часе вайны арыентацыя мусульманскага сьвету была **нямецкая**. Гэта-ж зразумела: адна Нямеччына не пасьпела яшчэ захапіць сабе мусульманскіх народаў на ўласнасьць і дзеля таго прадстаўлялася мусульманскаму сьвету, як апякунка яго ў саюзе з Турцыяй. Да таго-ж у Аўстра-Вэнгрыі, саюзьніцы Нямеччыны, мусульмане-басьнякі мелі такую шырокую рэлігійна-нацыянальную аўтаномію, як нідзе!

Але Англіі—дзякуючы яе золату!—удалося прарваць адзіны фронт Ісьляму ў часе вайны: шэрыф Гусэйн (выгнаны толькі што вагабітамі эмір Гэджасу) здрадзіў агульную мусульманскую справу і перайшоў на бок Антанты. Гэта абурыла проці яго ўвесь мусульманскі сьвет.

Мусульманскі сьвет думаў выйсьці з вайны аб'яднаным, а, замест гэтага, прайграў вайну і выйшаў з яе яшчэ больш разьбітым і паняволеным... Толькі-ж ён, і шмат іншых паняволеных народаў,—**відзеў слабасьць сваіх катаў** і больш і ярчэй, чым калі, зразумеў магчымасьць вызваленьня, адчуў сваё **права і сілу да гэтага**.

Хаця паасобныя нацыянальныя адзінкі мусульманскага сьвету былі выдзелены з пабітай Турцыі і, як „самастойныя дзяржавы", аддаы „пад мандаты" галоўным дзяржавам Антанты,—усе яны цяпер **паняволены горш**, як перад вайной, калі былі часткамі Турцыі.

І вось пад гэтымі „мандатамі" пачаў ужо на нашых вачох хутка ўзрастаць новы проціэўрапэйскі нацыянальны рух—на тэй-жа, яшчэ магутнай, падставе **ўсемусульманскай салідарнасьці**.

Каб дабіць без вайны пасаджанага Англіяй эміра-здрадніка Гусэйна, усе мусульмане **аб'явілі байкот Мэцкі** з яе сьвятынямі, якія цяпер „запаганены англійцамі". Вынікі гэтага байкоту былі папросту руйнуючыя: тая рака багамольцаў, якая раней прыносіла эмірам 120—150 тысячаў залат. рублёў у год, адразу „высах" да 7—8 тысячаў...

Прыйшлося Гусэйну, стаяўшаму моцна „na gruncie państwowości angielskiej", пастуліць ужо зусім і „на утрыманьне" Англіі. Але грошаў усё не хапала, каб стрымліваць папіханыя голадам на разбой і бунты „банды"...

Калі Турэцкі народ выгнаў ад сабе султана Абдул-Мэджыда і абвесьціў рэспубліку, тады эмір Гусэйн, паводле рады англійскага ўраду, абвясьціў сябе **халіфам**, каб захапіць уладу над сумленьнем усяго мусульманскага сьвету. Але-ж „мэханічна" ці паліцэйска-рэлігійныя часы ўжо даўно мінулі: Гусэйн гэтым толькі аканчальна загубіў сябе, а разам з сабой і... англійскую справу, ды ня толькі ў Арабіі, але і ўва ўсім мусульманскім сьвеце. Вагабіты і зьявіліся выканаўцамі прысуду гістарычна-маральнай Нэмэзіды (багіні Помсты).

---

Хто-ж такія вагабіты?

Гэта мусульманская сэкта, заснаваная яшчэ ў 17 веку ў Арабіі нейкім Абдулам Вагабам, — як мусульманская **рэакцыя проці рэфармацыйнага руху і духу**, шырыўшагася сярод мусульманскай інтэлігенцыі пераважна ў Турцыі і йшоўшага з Эўропы.

Лёзунгам сэкты было: паварот да мусульманскай старыны з часоў Прарока і, наагул, упрашчэньне жыцьця; былі і няясныя матывы сацыяльнага пратэсту—проці багатых і багацьця, асабліва духавенства.

Бэдуінам Арабіі вельмі спадабаліся гэтыя лёзунгі, і яны панясьлі іх на канцы мяча праз усю Арабію, пакарыўшы ў хуткім часе Сірыю, Ірак і г. д.

У 19 сталецьці вагабіты захапілі Мэкку і крывава расправіліся з засеўшай там „царкоўнай буржуазіяй", разагналі „сьвятых", „ачысьцілі" цэрквы ад лішняй роскашы і г. д.

Гэтыя жорсткасьці выклікалі рэакцыю ў іншых—багатых—краёх, і Турэцкі султан даручыў ягіпецкаму хэдыву прагнаць вагабітаў з Мэккі. Хутка ўвесь стары „парадак царкоўны" быў вернены. Палітычная сіла вагабітаў была зломлена, асталася ізноў толькі сэкта. Але яна, відаць, захавала сваю магутную духоўную сілу, калі цяпер зьявілася на гістарычнай сцэне ізноў. Але цяпер яна ўжо абмылак крывавай расправы ня робіць, шануе рэлігійнае пачуцьцё ўсяго мусульманства.

Найлепшым доказам сьпеласьці сілы і розуму вагабітаў і іх правадыра зьяўляецца тое, што яны сталі начале магутнага няцыянальнага вызвольнага руху, абхапіўшага ўсю Арабію,—а так-жа і тое, што яны карыстаюцца маральным і матар'яльным падтрыманьнем усяго мусульманскага сьвету — ад Ягіпту да Індыі, які бачыць у іх—побач з туркамі—авангард у барацьбе за вызваленьне ўсяго мусульманскага Ўсходу ад культурна-жываеднага Захаду.

**Абдул Дзядзюля.**

# Палітычны агляд.

## У Польшчы.

### Водгукі нападу на цягнік.

„Gaz. Adm. i Pol. Państw." (№ 45) наказуе, што, у сувязі з нападам на цягнік пад Баранавічамі (між Даманавым і Лясной), былі арыштаваны некалькі чыгункавых работнікаў, якія раскруцілі рэльсы і гэтак спынілі цягнік. — Паводле другіх вестак, нападаўшыя прымусілі іх да гэтага, пагражаючы рэвальвэрамі.

„Kur. Warsz." кажа, што пад суд аддадзены некалькі дрывасекаў, якіх вінавацяць у тым, што не паведамілі сваячасна паліцыю аб нападзе.

### „Бястактнасьць" новага міністра ўнутраных спраў.

Новы міністар унутраных спраў, п. Ратайскі—„беспартыйны правіцовец".

Новы віцэ-прэм'ер, які быццам мае ў габінэце ратаваць „fatalne stosunki narodowościowe" ў Польшчы, — дык значыць і справу „Крэсаў", — „беспартыйны" (на жаль!..) лявіцовец...

Але-ж і гэтыя „stosunki" і „справа Крэсаў", гэта-ж ня толькі найвялікшы „фальварак", але — запраўдны вялікі „двор" у міністэрстве ўнутран. спраў. Дык ці-ж, даруйце паночкі, можа ў правіцова-панскім палацу сядзець нейкім „панам над панам" — лявіцовец, хаця-б і беспартыйны?!

Ці-ж мог зьнясьці гэткія намеры і чуткі гонар пана Ратайскага? Дык ясна-ж, што не!

І вось у першым-жа сваім „wywiadzie" новы міністар, які сам заявіў, што „едзе ў Варшаву, як незапісаная паперка", сказаў вельмі рашуча, што ён ня толькі зусім ня будзе пад камандай п. Тугутта, але — што паміж ім і Тугуттам „ня будзе нават ніякага ўнутранага сутыку, апрача сяброўства на Радзе Міністраў... Міністар Ратайскі далей высьвіў, чым будзе займацца... віцэ-прэм'ер у Прэзыдыуме Рады Міністраў, якому быццам вызначана роль „zaopinjowania" (**дарадчай крытыкі?**) аб прапазіцыях розных міністраў у справах „ашчаднасьці і нацыянальных меншасьцяў"... Але ніякай **улады** п. Тугутт у габінэце, як „міністар без партфэлю" (**назначэньня** п. Тугутта віцэ-прэм'ерам яшчэ няма!), мець ня будзе, бо аб'ём улады міністра ўнутр. спраў „ні ў чым зьменены ня будзе"...

Вось, як адразу загаварыў — быццам сам прэм'ер!—новы міністар — „беспартыйны правіцовец" п. Ратайскі!..

Лявіцовая прэса закідае яму гэты „вывяд", як вялікі „nietakt"; правіцовая, як вялікую адвагу, якая суліць вельмі многа ў далейшым...

Што нам да таго, што паны міністры, яшчэ ня сеўшы за супольны стол, ужо пасварыліся?! Але ўсё-ткі цікава, хто-ж будзе загадываць нашым „крэсавым" лёсам: „знаўца крэсавых адносінаў", п. Тугутт, ці „незапісаная паперка" п. Ратайскі?

Трэба дадаць, што апошні сказаў, што шукае сабе віцэ-міністра, які „добра ведае крэсавыя адносіны"... Дык гэты віцэ-міністар, а ня віцэ-прэм'ер, і будзе „пісаць" на „незапісанай паперы"... Дык—чаму-ж тады гэтак абураецца „гонар самастойнасьці" п. Ратайскага?

Вельмі проста: бо віцэ-міністра ўжо шукае для „беспартыйнага" міністра—„Хіена"!..

### Канфлікт у П. П. С.

З прычыны таго, што дакладчыкамі па бюджэту розных міністэрстваў выбраны амаль ня ўсе з правіцы, Марачэўскі (PPS) і Сьлівіньскі (Сялянскі Саюз) адмовіліся ад пакінутых для іх дакладаў...

Адмова Марачэўскага выклікала канфлікт у Клюбе PPS, які лічыць гэткі крок свайго пасла шкодным для справы.

### Дуэль на шаблях.

Адбылася толькі што дуэль на шаблях паміж генар. Шэптыцкім і рэдактарам „Głosu Prawdy" Стпітыньскім, які зьмясьціў у газэце абразіўшы генарала артыкул.

Генарал атрымаў 2 лёгкія раны, а рэдактар трохі цяжэйшыя—на твару...

Генарала Шэптыцкага ваенны міністар загадаў пацягнуць да адказнасьці за пагвалчаньне кодэксу.

---

# Палякі у Латвіі.

У папярэднім нумары мы далі агляд выпадкаў у Латвіі на грунце барацьбы тамтэйшых палякоў з беларусамі, карыстаючыся дзеля стацьці грам. В., выключна, матэрыяламі польскае прэсы. З увагі на важнасьць закранутае справы, падаем сяньня прысланую з Латвіі стацьцю напісаную чалавекам, які зьяўляецца беспасярэднім сьведкай тамтэйшых выпадкаў. (*Рэд.*).

4-га і 7-га лістапада ў Латвійскім Сойме адбыліся два „вялікія дні", якія цалком былі афяраваны адказу міністра ўнутр. спраў на інтэрпэляцыю польскага пасла п. Вежбіцкага ў справе быццам, надужыцьцяў і злоўжываньняў начальніка Ілукштскага павету гр. Праўліня пры выдачы пашпартоў, а ласьне пры азначаньні ў іх нацыянальнасьці.

Інтэрпэляцыя гэтая цікава ня толькі ў сваёй гісторыі, але і па тых выніках, якія яна выклікала.

Да гэтага часу ў Ілукштскім павеце, згодна з афіцыяльнай латвійскае статыстыкай, усяго жыло, прыблізна, 46.000 чал., з якіх у сярэднім налічалася: латышоў 39%, палякоў 22%, велікарусаў 17%, беларусаў 11%, літвіноў 8% і іншых 3%. Лік беларусаў у розных валасьцёх гэтага павету значна розьніцца: ў той час, як напр., у паўночна-заходняй частцы процант беларусаў зьмяншаецца да 1—2%, у валасьцёх, якія прылягаюць да польскае мяжы, гэты процант павялічываецца да 50%, а ў некаторых і больш.

Польская эндэцыя, якая ўвесь час цягнецца да Дзьвіны і іначай не называе Латгаліі, як „Інфлянты Польскія", ня можа ніяк пагодзіцца, што ў 6-ці валасьцёх, аддзяляючых Польшчу ад Дзьвінску, знаходзіцца беларусаў больш, чым палякоў. Польскім п.п. Студніцкім гэтыя воласьці іначай і ня ўдаюцца, як „Этнаграфічная, гэаграфічная, гістарычная і г. Польшча", таму ў сваіх дамаганьнях яны й махаюць з ўсяго пляча шабляю і ляпаюць гарматным затворам.

Але латвійскім п.п. Вежбіцкім, якім у той-жа самы час трэба быць і латвійскімі патрыётамі, прыёмы п. Студніцкага ўжываць зусім небясьпечна, і ім патрэбны прыёмы якіясь іншыя. І вось адным з такіх прыёмаў, зусім, быццам, нявінным, здавалася ім падрыхтоўка да агульнае перапісі ў Латвіі, якая мае адбыцца 10 лютага 1925 г., а ў зьвязку з надыходжаньнем гэтага тэрміну — і адпаведная агітацыя.

Маючы перад сабой, пасьля судовага „ўшчамленьня" беларусаў, чыстае поле для „культурнае працы" сярод каталіцкага жыхарства Ілукштскага павету, п. Вежбіцкі пачаў шырока выкарыстоўваць свой пасольскі мандат і выступаць кожны вольны дзень з сваімі „справаздачамі" ў той ці іншай воласьці.

Зьвярнулі гэтыя „справаздачы" на сябе ўвагу начальніка павету. Сродкаў спыніць іх сваею ўладаю ў яго ня было, і ён мог толькі паведамляць рапартамі міністэрства ўнутр. спраў аб небясьпечнай дзеяльнасьці п. Вежбіцкага. Але ў Латвіі асоба пасла Сойму, хоць і ад меншасьцяў, ёсьць усётакі асоба пасла, якога паважаюць і якому давяраюць, а таму і міністэрства таксама не адважалася прыймаць якія колечы рашучыя крокі праціў п. Вежбіцкага, і ён бясстрымна вёў сваю „працу".

Ня менш зьвярнуў на сябе ўвагу гр. Праўліня і той факт, што, пасьля „справаздачаў" п. Вежбіцкага, звычайна ў канцэлярыю павятовага начальніка цягнуліся цэлыя паломніцтва сялянаў з просьбамі то запісаць іх у пашпарты палякамі, то перапісаць іх з беларусаў ці латышоў на палякоў. Асьцярожна пачаў ставіцца да гэтых „палякоў" гр. Праўлінь і, выяўляючы ў той ці іншы спосаб іх запраўдную нацыянальнасьць, пачаў у пашпартох стаўляць тую нацыянальнасьць, **да якой яны запраўды належаць.**

Зразумела, што большасьць аказалася такі беларусаў, а гэта, з свайго боку, зразумела, аказалася зусім не да спадобы п. Вежбіцкаму, усе высілкі якога, такім чынам, траціліся дарма.

А яму так-жа-ж яскрава маляваліся вынікі гэтае перапісі, даючай амаль ня 100% палякоў у гэтых так патрэбных Польшчы валасьцёх; малявалася тое вялікае ўражаньне, якое гэтая перапісь, гэты „плебісцыт", можа зрабіць на Эўропу або Лігу Народаў, а перад усім малявалася тая частка латышскіх грошаў, якая, пры зьмяншэньні ліку беларусаў і павялічэньні за іх кошт палякоў у Латвіі, будзе адабрана ад Беларускага Аддзелу Прасьветы і перададзена Польскаму Аддзелу.

Да гэтага часу, здавалася п. Вежбіцкаму, усё йшло, як ня трэба лепш.

Але раптам на дарозе ўсіх лятуценьняў п. Вежбіцкага стануў гр. Праўлінь, які, нават пасьля судовага сьледзтва над беларусамі, адважыўся ўзяць на сябе абарону беларускіх інтарэсаў у Ілукшчыне, і перад п. Вежбіцкім паўстала новае заданьне—барацьба з гр. Праўлінем. Зразумела, што ў барацьбе з латышскім адміністратарам спосаб барацьбы павінен быць іншы, чым з беларусамі, і таму п. Вежбіцкі аб дзеяльнасьці гр. Праўліня прыгатаваў інтэрпэляцыю праз Сойм, якую і трымаў у кішані, чакаючы адпаведнага мамэнту.

У канцы кастрычніка ў Латвійскім Сойме апазіцыя да сучаснага ўраду пачала выяўляць усё больш інтэнсыўнасьці—нават у такіх нязначных пытаньнях, як напр. цэны на лён. А таму, што ўрад апіраецца на соймавую кааліцыю, лікам 58 дэпутатаў, у якую ўваходзілі і 15 дэпутатаў меньшасьцяў, то п. Вежбіцкаму здавалася зусім лёгкім, прыцягнуўшы на свой бок гэтых 15 галасоў і перакінуўшыся разам з імі на бок апазіцыі, адыграць сваёю інтэрпэляцыяй рашучую роль ў істнаваньні сучаснага ўраду. Дэпутаты меньшасьцяў, да апошняга часу, дзякуючы адсутнасьці аднадумнасьці значнай ролі ў Сойме ня йгралі, але цяпер, прадбачачы ўзрост свайго значэньня ад аб'яднанасьці, а разам з тым і магчымыя выгады пры зьмене габінэту, зблёкаваліся і далучылі свае подпісы да інтэрпэляцыі п. Вежбіцкага.

Латышскія партыі, якія знаходзяцца ў апазіцыі, так сама абяцалі п. Вежбіцкаму сваю падтрымку.

І вось, 24 кастрычніка ў Латвійскі Сойм была ўнесена п. Вежбіцкім, ад імя ўсіх меншасьцяў, інтэрпэляцыя Міністру Унутр. Спраў аб дзеяльнасьці Начальніка Ілукштскага павету, гр. Праўліня. Калі пачалася абарона інтэрпэляцыі, то дэпутаты меншасьцяў, ня веручы асабліва, што яны зьбяруць належны лік галасоў, стараліся з усіх сіл яе абаснаваць, не застанаўліваючыся нават перад такім модным цяпер ў Латвіі палоханьнем

Здаецца, гэта—першая дуэль у Польшчы, на якой прынамся... пралілася кроў!—А да таго, калі ня мыляемося, цэлая маса дуэляў мела характар больш „сцэнічны“...

### „Bezczelność“...

Пад гэткім загалоўкам „Dz. Wileń. падае, што арганізацыя, якая апякуецца вязьнямі-камуністамі ў іншых дзяржавах, мае зьвярнуцца да польскага ўраду аб пазваленьне на прыезд у Польшчу радавых адвакатаў, якія прымуць учасьце ў палітычных працэсах, як абаронцы.

Як інфармуе радавая прэса, гэтая-ж арганізацыя мае дамагацца візаў для высыланай ею камісіі—для знаёмства з станам польскіх вастрогаў, дзе сідзяць камуністы...

## Заграніцай.

### Зямельная рэформа ў Літве.

Як піша „Эхо“, літоўскі ўрад празначыў на адабраньне ад уласьнікаў і парцэляцыю ў 1925 годзе 183.000 гэктараў зямлі.

У падзел пойдзе перад усім і пераважна зямля польскіх абшарнікаў, — бо-ж гэткіх было ў Літве найбольш.

### Даверые літоўскаму ўраду.

Пасьля дыскусіі над экспозе прэм. Тумэнаса ў справе Клайпэды, урад атрымаў даверые большасьці 38 галасоў (блёк хрысьціянскай дэмакраты) проці 23 сацыял-дэмакратаў і людоўцаў.

### Каталіцкі клір на Украіне.

„ПАТ“ падае паведамленьне радіо з Харкава:

Ксёнзд Федукевіч з Жытаміру паслаў да Папы ў Рым ліст, у якім піша, што, у выніку адсутнасьці ў Радавай Украіне ўласнага каталіцкага біскупа, каталіцкі касьцёл на Украіне залежыць ад... польскага ўраду, які лічыць каталіцкі клір у ССРР сваімі афіцыяльнымі агентамі.

Паводле кс. Федукевіча, шмат ксяндзоў на Украіне спаўняюць роль польскіх шпіёнаў, выпаўняючы даручэньні польскага генаральнага штабу. Зусім афіцыяльныя прадстаўнікі польскага ўраду даручаюць ксяндзам розныя сумліўныя місіі. Сам кс. Федукевіч прызнаецца, што і ён даставіў аднаму польскаму агенту даныя аб дыспазіцыі чырвонай арміі.

Аўтар лісту просіць Папу, каб ён націснуў на польскі ўрад, каб той надалей не карыстаўся каталіцкім клірам дзеля палітычных мэтаў.

### Расейска-нямецкая канфэрэнцыя.

У Маскве адчынілася канфэрэнцыя дзеля заключэньня targовай умовы паміж ССРР і Нямеччынай.

Адчыняючы паседжаньне, старшыня Красін сказаў прамову, у якой, паміж іншым, заявіў, што падставай гаспадарчага жыцьця ССРР павінна быць і надалей манаполія заграні чнай таргоўлі. Але і пры гэтым варунку супольная праца ССРР і Нямеччыны мае вялікі прастор і дасьць вялікія карысьці для абедзьвюх старон.

У адказнай прамове нямецкі пасол у Маскве гр. Брокдорф-Ронтцаў заявіў, што нямецкі народ добра зразумеў, што можа яму даць Усход, а перад усім — шлях да яго — Расея. Але і Расея, відаць, разумее, што можа даць ёй нямецкі народ для яе адбудаваньня. І вось, гэтая супольная праца лепш за ўсе фразы забясьпечыць узаемны расцьвет абодвух вялікіх краёў.

### Прамова Троцкага.

У апошняй прамове Троцкі заявіў, што нават Амэрыка павялічывае збраеньні, дык Расея павінна з усей энэргіяй тварыць магутную армію. Пралетарыят ня можа верыць міжнародавым пацыфістам і ня можа зьменшыць арміі ні з боку лічбы, ні якасьці... „наша армія павінна ў кожны мамэнт быць гатовай ісьці на помач міжнародаваму пралетарыяту“.

### Новая нота англійскага ўраду — ССРР.

Англійскі ўрад высылае ўраду ССРР новую ноту ў справе „лісту Зіноўева“. У ноце мае быць сьцьверджана, паводле экспэртызы спэцыяльнай камісіі, праўдзівасьць лісту Зіноўева, а пасьля — падцьверджана рашучае дамаганьне спыніць прапагавду Комінтэрну ў Англіі, без чаго ня могуць істнаваць добрыя адносіны паміж абедзьвюма дзяржавамі...

### Урад Балдвіна, жэнеўскі „пратакол“ і разбраеньне.

Генаральны сэкрэтар Лігі Народаў, Друмонд, езьдзіў у Лёндан, каб выясьніць становішча новага англійскага ўраду, адносна да „прынятага“ на апошняй сэсіі Лігі „міравога пратаколу“. Англійскі ўрад заявіў, што можа выясьніць сваю пазіцыю толькі пасьля паразуменьня з сваімі „домініямі“ (заморскімі краінамі). Дзеля таго просіць зьняць справу пратаколу з парадку дня найбліжэйшай сэсіі Рады Лігі, якая адбудзецца ў сьнежні ў Рыме.

Англійскія газэты пішуць, што ў Рыме пачнецца толькі... перагляд гэтага „пратаколу“ юрыстамі... Калі ён скончыцца, дык цяпер ня ведама. Можа і вельмі няскора! А дзеля таго, што ад канца гэтай працы залежыць склі каньне „назначанай“ у Жэневе на чэрвень 1925 г. Міжнародавай „Канфэрэнцыі аб разбраеньні“, дык, зразумела,—і канфэрэнцыя гэта на гэты час не зьбярэцца...

Дык і разбраеньне не „пагражае“ вялікім дзяржавам і... „wielkim mocarstwom“...

Не пагражае таксама і зрэалізаваньне „ўмовы аб узаемнай гарантыі“...

Прасьцей кажучы, усё, як было, так і засталося.

Збраеньні сьвету растуць. Будуюць, пераважна, ваенны і „цывільны“ паветраны флёт, не забываюцца і аб браняносцах...

Нават... „віленска-троцкае моцарства“ ўжо мае свой уласны аэраплян...

## Рэвалюцыя у Гішпаніі.

У гарах Сіерра-Нэвада пачалася партызанцкая вайна проці ўраду дэ-Рывэры. На чале яе стаіць былы афіцэр Альнуфэра. Партызаны нападаюць на ўрадавыя ўстановы, цягнікі, пошту. „Палітычны бандытызм“ расьце...,

Урад Рывэры загадаў бязлітасна паліць вёскі, дзе маюць хавацца „бандыты“, а жыхароў аддаваць пад даразны суд. На падставе гэтага загаду, ужо спалены колькі вёсак, насяленьне якіх пабіта і пакалечана—бяз суда і сьледзтва.

---

У Мадрыце выбухнуў бунт навабранцаў. Жаўнеры разброілі афіцэраў і захапілі рад казармаў. Паўстанцы адмовіліся ісьці на фронт у Марокко.

Паліцэйская атака на казармы была адбіта.. Пакліканае войска адмовілася страляць у братоў... Тады верныя ўраду войскі, пры дапамозе артылерыі, задушылі бунт. Усе паўстанцы расстрэляны бяз суда... Да ўсіх вялікшых местаў, дзе спадзяюцца „бунтаў“, дырэктары сьцягіваюць верныя (?) ім войскі.

---

Урад дэ-Рывэры абвяшчае, што гішпанскія войскі пакінулі ўжо або маюць пакінуць яшчэ 180 умацаваных пазіцыяў, у тым ліку ўвесь раён местаў Шэшуану і Бароколя...

Але глаўнакамандуючы гішпанскай арміі ў Марокко (сам гэн. дэ-Рывэра) дадае, што пакрые гэтае паражэньне пабедай, хаця-б гэта каштавала паловы насяленьня Гішпаніі...

---

Адным словам, — знаёмы добра абраз таго, што сьляпы і глухі ўрад да апошняга мамэнту ня хоча і не дазваляе называць па іменьню: **рэвалюцыяй**...

### Замах на англійскага маршалка ў Ягіпце.

У Каіры няведамыя „бандыты“ кінулі 2 бомбы ў галоўнакамандуючага англійскай арміяй у Ягіпце, Лі-Суэка. Кінуўшы бомбы, з якіх адна не разарвалася, замахоўцы пачалі страляць з рэвальвэраў. Трыма кулямі Лі-Суэк цяжка ранены.

Апрача таго, ранены ад'ютант генарала, агент тайнай паліцыі і шофэр. Замахоўцы ўцяклі.

Уцякаючы, замахоўцы адстрэліваліся ад прасьледаваўшых іх паліцыянтаў. Калі ў аднаго з „бандытаў“ выйшлі ўсе патроны, дык яму давалі новыя „абоймы“ прахожыя!

### Паветраны флёт Англіі.

Міністар паветранай абароны, Гэр, у сваей прамове заявіў, што ўрад напружыць усе сілы дзеля разьвіцьця ваеннай і прыватнай авіацыі. Урад пачаў будаваць ваенныя паветраныя караблі, вагай ў 750 тонаў і даўжынёй у 820 футаў—дзеля паветранай камунікацыі з Ягіптам і Індыяй.

---

бальшавіцкім характарам беларускага нацыяналізму.

— „Падтрымка беларускага руху ў Латвіі — гэта гульня з агнём, якая можа пагражаць цэласьці нашай дзяржавы“ — палохаў Сойм нават нямецкі дэпутат Шыман.

Але зусім лішнімі былі ўсе гэтыя высілкі, усе гэтыя дэманстрацыі такой дзіўнай нямецкай і польскай аднадумнасьці, бо за прыняцьце інтэрпэляцыі зьбіраліся галасаваць і галасавалі нават тыя кааліцыйныя партыі, якія гэты Урад падтрымліваюць. Яны былі пэўны ў тым, што, з аднаго боку, адказ Міністра Унутр. Спраў будзе здаваляючым, а, з другога, што латышскае нацыянальна-дзяржаўнае пачуцьцё ў такой справе прымусіць апазіцыю ў рашучы момант зьняць свае галасы з інтэрпэляцыі. Большасьцю 70 галасоў проціў 7 інтэрпэляцыя была прынята і на 4 лістапада быў вызначаны адказ Міністра Унутр. Спраў.

Ужо пасьля прамовы Міністра Унутр. Спраў было відаць, што ён ня толькі бараніўся, але, маючы сур'ёзныя матэрыялы, нападаў—і нападаў так сама сур'ёзна. Тое, што ад яго ў працягу ўсей прамовы пачуў Сойм. ня толькі дало цікавы малюнак польскае „культурнае“ працы ў Латвіі, але і прымусіла ўсіх бяз вынятку латышскіх дэпутатаў адмяжавацца ад дэпутатаў меншасьцяў, падпісаўшых інтэрпэляцыю п. Вежбіцкага.

А сказаў Міністар Унутр. Спраў, між іншым, вось што:

— „Камісія, якая выяжджала для разбору справы на мейсца разам з п. Вежбіцкім, дапрасіла 42 сьведкаў, з якіх 2 адказывалі палатышску, 9 папольску і 31 парасейску („пэўна-ж пабеларуску“). Але ўсе яны ў вадзін голас зазначалі, што моляцца Богу папольску, дома гавораць папольску. Відаць, што свае паказаньні яны бралі з аднэй крыніцы“.

А калі было ім пастаўлена пытаньне, да якога яны, відаць, ня былі падрыхтаваны,—чаму яны хочуць запісацца палякамі, то адказы іх былі ўжо розныя, але маючыя, відаць, так сама „добрую“ інспірацыю:

„Таму, што тады дзяцей лягчэй будзе вучыць.... Вучыцель казаў, што беларусы—гэта маскалі і ня могуць пасылаць дзяцей ў школу... Дзяцей беларусаў ён пагражаў выгнаць з школы... і г. д.“

„З паказаньняў гэтых сьведкаў відаць, што, рыхтуючыся да перапісі 1925 г., пэўнымі асобамі вядзецца польская агітацыя, у сэнсе апалячываньня жыхарства. На першым мейсцы стаіць пасол Вежбіцкі, які ў Ілукшчыне пераконываў каталікоў абавязкова запісывацца палякамі, а ў Дзьвінску на сходзе загадываў усім запісывацца палякамі, бо іншыя нацыянальнасьці ня маюць ў Латвіі ніякіх правоў. Польскі працаўнік Зэбэрг (Член Дзьвінскае Мастовае Управы) з пасьведчаньнем Польскага Аддзелу прасьветы езьдзіць на сходы бацькоў пачаткавых школ і агітуе за палякоў. Польскі вучыцель Лапіньскі даў члену валасной Управы 500 руб. на польскую агітацыю, а калі той сказаў, што гэта замала, то Лапіньскі парадзіў яму зьвярнуцца да п. Вежбіцкага, які павінен заплаціць больш. У тым жа напрамку працуюць Завадзкая і інш.“.

Цэлы рад прамоўцаў дапоўніў справаздачу Міністра новымі фактамі польскае агітацыі:

— „У Ілукштскім павеце істнуе тайная польская арганізацыя, на чале якой стаіць п. Вежбіцкі. Вучыцель Лапіньскі зьбіраў подпісы за далучэньне Ілукшчыны да Польшчы. Польскія агітатары распаўсюджываюць чуткі, што Латвія доўга істнаваць ня будзе, што тут будзе скора Польшча. Зэбэрг казаў, што латышы паляцяць к чорту. Вежбіцкі на сходзе казаў, што нават найвышэйшыя адміністратыўныя чыноўнікі, якія будуць перашкаджаць польскай справе, будуць звольнены і г. д.“ (З прамовы дэп. П. Гайліта).

— „Апалячываньне Латгаліі вядзецца з расейскіх часаў. Нават мяне (прамоўцу) палякі залічалі ў сваю нацыянальнасьць“ (з прамовы Ф. Трасуна).

— „Польская этнаграфічная мяжа не захоплівае Ілукшчыны, але шырокая польская агітацыя вядзецца там ужо даўно. У той час, як перапісь 1860 г. дала ў Ілукшчыне толькі $10^{0}/_{0}$ палякоў, перапісь 1920 г. дала там $22^{0}/_{0}$“ (З прамовы М. Скуенэка).

Шмат яшчэ прамоўцаў, нават з боку апазіцыі, забыўшы свае абяцанкі п. Вежбіцкаму, гаварылі, замест яго абароны, аб палянізацыі Латгаліі.

Урэшце атрымаўся запраўды рэльефны і досыць поўны малюнак істоты польскае справы ў Латвіі.

І калі пытаньне аб даверыі міністру ўнутр. спраў было пастаўлена на галасаваньне, то „проціў“ галасавалі толькі 12 дэпутатаў меньшасьцяў, і, такім чынам, інтэрпэляцыя п. Вежбіцкага ня толькі праваліліся, але паслужыла повадам да тых няпрыемных для яго адкрыцьцяў, якія яму прыйшлося слухаць у працягу гэтых памятных яму надоўга дзён 4-га і 7-га лістапада.

Але і гэтага мала, бо інтэрпэляцыя п. Вежбіцкага мела яшчэ два вынікі, таксама зусім неспадзяваныя ні для яго, ні для яго аднадумцаў:

1) З соймавай трыбуны было сказано тое, што ў іншых установах і пры іншых варунках магло ня быць галасна сказана, у справе, якая павінна вельмі абходзіць блізкую суседку Польшчы, а

2) 8-га лістапада ў Дзьвінску і Ілукшчыне былі зроблены вобыскі ў некаторых найбольш відных гласных Дзьвінскае Думы з польскае фракцыі і ў многіх польскіх паасобных дзеячоў, пасьля чаго былі адразу заарыштаваны 9 асоб, сярод якіх знаходзяцца і вышэйпамянёныя Зэбэрг, Лапіньскі, Завадзкая. гласны Дзьвінскае Думы з польскае фракцыі Тамак і інш. Усе яны пераведзены ў Рыжскую цантральную турму, а ў Дзьвінску, як пішуць, сярод тамтэйшага польскага жыхарства стварылася вельмі цяжкая прыгнечаная атмасфэра“.

Аб выдачы галоўнага дзеяча п. Вежбіцкага да гэтага часу Улада ў Сойм пакуль не зварочывалася, і магчыма, што з палітычных мяркаваньняў і ня зьвернецца.

Чым скончыцца ўся гэтая гісторыя з „Польскаю справаю“ — няма ведама. Можа скончыцца яна тым самым, чым і „Беларуская справа“—г. е. сьледзтвам, а можа голас „саюзьніцы“ Польшчы акажацца ў „Польскай справе“ больш моцным, чым галасы саюзьнікаў беларусаў у „Беларускай справе“.

Пакажа будучыня. **Лад.**

### Рэвэляцыі б. францускага пасла.

Уся француская і загранічная прэса да гэтуль хвалюецца з прычыны апублікаваньня удавой б. францускага пасла ў Расеі—п. Люі, якая даводзіць радам дакумэнтаў і фактаў, што запраўдныя вінавайцы выбуху Вялікай вайны — ня Вільгэльм, а Пуанкарэ і Ізвольскі (расейскі мін. загр. спраў):

Пуанкарэ і рад скампрамітаваных „успамінамі“ п. Люі францускіх дзеячоў надрукавалі свае пратэсты, у якіх заяўляюць, што гэтыя „ўспаміны“ або сфальшаваны, або „тэндэнцыйна“ асьвятляюць факты.

### Паражэньне Эрыо ў Сэнаце.

Сэнат 189 галасамі проці 104 адкінуў урадавы праект аб амністыі для завочна засуджанага капітана Садуля, які перайшоў на службу ў чырвоную армію, а так-жа журналіста Жыбо..,

### Джолітті перайшоў да апазіцыі.

Далучэньне да апазіцыі ведамага ўсей Італіі Джолітті выклікала агульную сэнсацыю. 83-летні дзед-патрыот прышоў пехатой у „парлямант без апазіцыі“, каб голасна заявіць аб тым, што ён далучаецца да апазіцыі, якая засядае асобна ад парляманту, і—будзе галасаваць проці „бюджэту“ і ўраду Мусоліні, лічучы, што паступкі Мусоліні і выданыя без парляманту „законы“ нарушаюць канстытуцыю.

### Сярод італьянскіх фашыстаў.

Былы фашыстаўскі дэпутат Імпэрато ў часе палітычнай спрэчкі з нейкім фашыстам забіў апошняга з рэвальвэру.

### У С. Х. С.

Харвацкая сялянская партыя (Радіча) пастанавіла адбываць свае сабраньні ня публічна, але ў закрытых прыватных памяшчэньнях.

Гэта — першы мінімальны пратэст палітычнай арганізацыі проці новага рэжыму Пашыча: белы тэрор ураду заганяе адкрытую палітычную работу ў падпольле...

### „Магіла цывілізацыі“.

Вядомы амэрыканскі сэнатар Хувэр у сваей прамове сказаў, што новая вайна была-б магілай цывілізацыі, і што роль Амэрыкі—ў тым, каб зрабіць усё дзеля недапушчэньня да новай вайны.

А дзеля гэтага Амэрыка павінна быць... добра ўзброенай!..

### Страляніна ў мэксыканскім Сойме.

На паседжаньні парляманту ў Мэксыцы дайшло да бойкі, у часе якой былі пушчаны ў ход нажы і рэвальвэры.

Пасол Закатэс памёр ад цяжкіх ранаў; правадыр работніцкай партыі Маронец, цяжка ранены, ляжыць бяз памяці, і ждуць, што памрэ. Апрача таго, ёсьць яшчэ колькі раненых.

Работнікі абвінавачываюць так званых „умераных“, якія быццам зрабілі змову, каб забіць Маронеца. Пакуль што ніякіх арыштаў ня зроблена, бо ўлада ня ведаець, з чаго ўсё пачалося і хто каго забіў...

## ХРОНІКА.

**„Тугуттаўскія законы“ ў Вільні.** "Dz. Wil." піша, што віленскі інспэктар пачатковых школ „зьліквідаваў“ беларускую пачатковую школу № 32 пры Кальварыйскай вуліцы, № 84. Вучняў школы перавялі ў школу № 33 па Востробрамскай ул.—на другім канцы места! Затое — у будынку б. беларускай школы зроблена польская...

Прычына „зьліквідаваньня“ — малая лічба вучняў—беларусаў...

Чуеце, пане віцэ-прэм'ер?

**За праціўленьне паліцыі.** „Gazeta Adm. i Policji Państw.“ у № 44 піша, што міністар справядлівасьці выдаў цыркуляр да ўсіх старшынь і пракурораў апэляцыйных акругоў, у якім загадаў, каб у прыпадках праціўленьня паліцыі, зьнявагі яе ці прымушаныя кінуць выпаўненьне службовае чыннасьці справы гэткія суд разглядаў у сьпешным парадку і „ze szczególną pieczołowitością“.

Адначасна з гэтым, міністар загадаў, каб у такіх справах вызначаліся судом найвышэйшыя кары. Пракуроры павінны падаваць пратэсты проці вызначаных караў, калі яны лішне лагодныя..

**Зьезд пагранічных старостаў.** 28/XI ў Вялейцы адбудзецца зьезд старостаў усей Віленшчыны ў справах абароны пагранічча. У зьезьдзе прымуць учасьце: камандзір брыгады корпусу пагранічнікаў, палк. Рымша, начальнік аддзелу бясьпечнасьці ў Дэлегатуры, Двораковскі, команд. паліцэйскага акругу, Прашаловіч і кіраўнік палітычнай паліцыі Граф.

На зьезьдзе маюць быць апрацаваны практычныя способы супрацоўніцтва адміністрацыйных уладаў з ваеннымі.

**Арышты.** У Лунінецкім пав., у в. Заастрэвічы, паліцыя заарыштавала Яна Шулякоўскага і Адама Карловіча, у якіх пры вобыску, паводле газэтных вестак, знайшлі доказы, што яны належаць да процідзяржаўнае беларускае арганізацыі (?).

У Горадні 25 кастрычніка заарыштавана 8 сябраў Камуністычнае Партыі Заходняе Беларусі.

У той-жа дзень у Гарадку, Беластоцкага пав., паліцыя заарыштавала 4 камуністаў, западозраных у процідзяржаўнай агітацыі.

6 лістапада ў в. Барожджа (?) арыштаваны 6 беларусаў, якіх падазраваюць у арганізацыі „дывэрсыйных банд“. „Ilustr. Kurjer Codzienny“, піша, што „адзін з іх, К. Юрашчук, зьяўляецца сэкратаром Беларускага Пасольскага Клюбу ў вёсцы Барожджа. Усіх арыштаваных аддалі ў рукі пракурорскае ўлады“.

**Фальшывыя двузлоткі.** У абароце зьявіліся фальшывыя двузлоткі досыць дрэннай работы. Адрозьніць іх ад добрых—вельмі лёгка, але трэба, як той казаў, глядзець „въ оба“, каб не падсунулі благой.

## Карэспандэнцыі.

### Новая закавыка.

(*З Слонімскага пав.*).

Жыхары в. Пруд, Дзеравенскае гміны, даведаўшыся аб языковых законах, парашылі адчыніць беларускую школу, у якой адчуваецца вялікая патрэба: у вёсцы — 75 дзяцей школьнага ўзросту. Своечасна аб гэтым паведамілі ў гміну, патрабуючы прадстаўніка. Прадстаўнік ня прыехаў, і сход адбыўся без яго. Сьпісалі пратакол, падпісалі (65 подпісаў) і ўпаўнамочылі вуч. М. Пятліцкую клапаціцца аб адчыненьні роднай школкі.

Даведаўшыся аб гэтым, гмінны пісар, Стэмінэўскі узяў стрэльбу, у тры разы большую за сябе, ды з войтам і камандантам пастарунку паліцыі прыехалі ў вёску: расьследаваць „дзела“· Зараз-жа загадалі паклікаць вучыцельку, каторая была ў вёсцы, і пісар пагражаў: арыштаваць і „za łeb wyrzucić“, але пакрычаў, паскакаў, ды тым справа і скончылася.

Вучыцелька панясла пастанову сялян да школьнага інспэктара, але п. Інспэктар ня прыняў, тлумачачы сваю адмову тым, што прадстаўнікоў не прынімае: няхай прыдзе ўся грамада, якой хочацца беларускай школы, тады ён будзе гутарыць.

**Дудачка.**

### „Вучыць“.

(*З Слонімскага пав.*).

Вучыцелька Азарыцкай польскай школы — „варшавянка“. Дзявочага прозьвішча ня ведаю, па мужу Сяргейчык. Называе дзяцей рознымі мянюшкамі, а ня іх уласнымі, — напр.: дзяўчынку Скок з вёскі Шундраў абазвала „Капачкай“, іначай яе не называе, як толькі мянюшкаю, а за ёй і дзеці. Беднае дзіця баіцца школы, як голы крапівы, і ў школу ня йдзе, а вучыцелька пагражае штрафам: плача дзіця, баючыся школы, плачуць бацькі.

А ў школе, што за „парадкі“: „чысьценька“, паветра сьвежае, лаўкі памаляваны, але ня хварбай і не маляром, дык чым? спытаеце... Курамі, каторых вучыцелька многа мае і на ноч зачыняе ў школьны будынак, а куры і малююць лаўкі...

**Сусед.**

### Новы барон Кыш.

(З *Пружанскага пав.*).

30.X ў м. Картуз-Бяроза „адбылася“ ліцытацыя сялянскіх рэчаў, забраных за падаткі.

Прадаваліся: конь, ложак, стол, самавар, падушкі, гадзіньнік і др. рэчы. Камандаваў войт, Кавалеўскі, а пісар памагаў, але прадажа не пасоўвалася ўперад: сяляне „холадна“ глядзелі на „тавар“, і купцоў не знаходзілася. Тагды пашлі на хітрыкі: войт ацаніў ложак 8 зл. і крычаў „хто больш?“, а сэкратар, стоючы за людзьмі адказаў „свайму“ начальніку: „9 зл.“. Але і гэта не памагло; сяляне купляць не хацелі, і прадажа „скончылася“. На ня выручаныя барышы „начальства“ выпіла і мусі са злосьці, ці так з чаго (хто згадае думкі „начальства?“) патаўклі, паламалі чужыя рэчы, і папсаваныя аддалі гаспадаром.

Калісь у Смаленскай губэрні гэтак адзначаўся барон Кыш.

Ён быў барон, ня ведаў сялянскага гора; а тут гэткі самы селянін, гэтакі бедняк, як і ўсе, хоць праўда, пабагацеў, як пабыў войтам — настроіў будынкаў, ачысьціўся, — але хай не забывае, што ён з беднякоў і што можа прыйсьці каза да воза, а тагды ад воза калам! А пан пісар — „сапыяліст“ агітаваў за сьпісак № 2 — дастойны калега сваіх паслоў з П.П.С.

**Сяльчук.**

### І за чаўны плаці?

(*В. Ганцавічы, Лідзкага пав.*).

Каля нашай вёскі працякае рэчка — Нёман. Усёлетнім леце Нёман зрабіўся для нашага сялянства вялікай мяжой — граніцай. Сяляне кожны дзень пераяжджаюць, а так-жа перавозяць на той бок ракі скаціну на пароме (маста няма!).

Паром часта псуецца, і тагды перавозім скаціну на чаўнах.

Так было да сёлетняга году.

Але сёлета „zarząd wodny“ апавясьціў, што, хто мае чаўны, мусіць рэгістраваць, а па рэгістрацыі — ведама што: плата.

Сяляне перапалохаліся, давай хаваць чаўны, хто куды: той у сьвіран, той у пуню — абы схаваць, каб на воку ня быў.

Некаторыя зарэгістравалі і заплацілі па 9 зл. ад чаўна. Расьпіскі атрымалі на 6 зл. — па тры зл. пераплацілі.

А з худобай было клопату.

**Селянін Сымон.**

### Як нам памагаюць будавацца!

(З *Пастаўскае гміны, Сьвянц. пав.*).

Вялікая вайна прахадзіла па Беларусі, нішчыла, паліла, таптала і біла яе, як разьюшаны зьвер, і гэтай вайне мусіць прышла злосьць і на нашу вёску Кашачы: бо яна, каб лепш сьцерці з зямлі і зьмяшаць з гразёй усё дабытае нашым крывавым потам, затрымалася каля нас на два гады.

Трэба прызнаць чэсьць ёй, што выпаўніла свой абавязак. За два гады вайна зьела ўсё, што будавалася дзесяткі гадоў, а нас распыліла па ўсенькім сьвеце.

Вайна скончылася. Зьбіраюцца сяляне, але што-ж рабіць: ад вёсак не асталося нат' і каменьня, толькі: драты, акопы, гаі на палёх.

Беларус — працавіты: ачышчаець палі, агароды, дзярэ дзірваны і г. д. У каго хлеба няма, дык есьць траву — папарнік, ходзяць папохшы, але, не зважаючы ні на што, працуе з апошніх сілаў.

У часе польсга-бальшавіцкай вайны паноў ня было; ну хто меў сілу, дык і будаваўся — з панскага лесу.

Занялі палякі; здаецца, што павінны нам памагчы хоць крыху, а хоць-бы ня бралі падаткаў, але дзе там! Хто ня „вывез“ хаты за часоў бяз'уласьця, дык і цяпер сядзіць у зямлянцы; толькі пішуць блянкі, паданьні, заявы да „Biura Odbudowy“, старасты і г. д., а помачы — каб на грош!

А яшчэ, надовячы, Земскі Камісар на Дунілаўскі пав. казаў аб культуры зямлі ў Нямеччыне: што і на сыпучым пяску хлеб родзіць! Але дзе нам да гэтага, калі не даюць падняцца ад зямлі, не даюць дыхнуць вальней. Прыдуць падаткі, і думай, адкуль іх узяць: хаты няма, зямлі 1 дзесяціна, сям'і 6 душ малых, конь стары, а то і таго няма; к зіме боты, ці кажух трэба, нада-б і дрэва купіць у Манькаўскага пана на якую-небудзь хацёнку.

Вось, дзе галава баліць, больш розуму нада, як немцу пясок удабрыць!

**Паўлюк.**

### Спрытны паліцыянт.

(В. *Мястэчка, Груздаўскай гм., Дунілаўскага пав.*).

З 13 на 14 кастрычніка ў нашай вёсцы былі вясельныя гульні — скокі. Моладзь спакойна гуляла. Але спакой нарушыў паліцыянт Груздаўскага пастарунку № 6635, каторы, добра выпіўшы, хацеў камандаваць скокамі. Моладзь, не зважаючы на паліцыянта і ня слухаючы яго, далей гуляла. Паліцыянт, хочучы паказаць сваю „велічыню“, выхапіў рэвальвэр і скамандаваў: „рукі ўверх!“

Перапалохаўшыяся дзяўчаты з крыкам кінуліся праз дзьверы, а хлапцы акружылі паліцыянта, пытаючыся, што гэта значыць. Паліцыянт адказаў: "6 гадоў праслужыў я ў польскай паліцыі, і вы мяне павінны ўважаць!" (— а Польшча істнуе 5 гадоў).

**Сівая Сярмяга.**

## Паштовая скрынка.

**Мартынаву.** Прысланае атрымалі, толькі баімося друкаваць, хоць і ўсё гэта праўда!

Ад: **Нікіфара Омэлько, Солтыса вёскі Гаўрылкавічы, Якуба Калача, Кузьмы Зданевіча, Л. Шутовіча, Фр. Каладзея, Андрэя Гурына, Ул. Коломыцкаго, Ц. Макуцэвіча, Ауг. Мамчыца, К. Ромэйко, Юльяна Тарарука, К. Сьвятагора**—атрымалі па 2 зл. Ад. **Мікалая Трафімчыка, Сэрафіма Буйніцкаго, Яна Забельскаго** атрымалі па 3 зл. Ад: **Вячаслава Войшэвіча, Яна Таранко, А. Лабаноўскаго, Васіля Рэчко, П. Пілюціка, Рамана Кунцэвіча, Ігн. Дземеніка, Сымона Лазарэва**—атрымалі па 4 зл.

Ад **Ю. Мурашкі**—5 зл. атрымалі. Ад **П. Клінцэвіча, Юльяна Наруша, М. Хаванскага, Яна Коніка, Саюза Дворнікаў, Антона Казушчыка** — па 6 зл. атрымалі. Ад **Антона Гардзея і А. Саракавіка** — па 10 зл. атрымалі. Ад **С. Дабраловіча**—1 зл. атрымалі. **Паўлу Борысу.**—Паведамляем, што да Новага Году належыцца ад Вас яшчэ 3 зл.

---

Атрымана Адміністрацыяй 5 зл. з вёскі В.-Кракотка пав. Слонімскага: бяз подпісі (бяз прозвішча).—Дзеля таго, што ў гэтай вёсцы маем двох падпішчыкаў, ня ведаем, хто грошы выслаў. Просім паведаміць.

Рэдактар-Выдавец **Антон Войцік**.

Друкарня **Н. Левін і Сын**, Вільня, Нямецкая 22.